№№179–180
(3718–3719)
16 лістапада 2012 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПАЛІТЫКА

## Беларускі ўрад не рэагуе на лісты Міклаша Харашці

### *А ён спадзяецца на станоўчы водгук.*



Вядомы еўрапейскі палітык Міклаш Харашці даўно займаецца праблематыкай Беларусі. Але яго высновы не заўсёды падабаюцца кіраўніцтву нашай краіны. Таму, калі ён атрымаў мандат спецдакладчыка ААН па Беларусі, высокія чыноўнікі Сінявокай вырашылі, што лепшы варунак — гэта не прызнаваць яго статус на афіцыйным узроўні.

Міклаш Харашці звяртаецца да беларускага ўрада (лічы, да Лукашэнкі. — **Аўт.**) з лістамі, а ў адказ — маўчанне. “Але ж я спадзяюся на станоўчы вынік, — сказаў днямі Харашці падчас сустрэчы з групай беларускіх журналістаў у Вільнюсе. — Гатовы весці гаворку з урадам як у цэлым, так і па асобных тэмах. Я не прэтэндую на сустрэчы на самым высокім узроўні, гатовы гаварыць з тымі, каго ўрад прызначыць для гэтага...”

Спадар Харашці лічыць, што яго работа ў якасці спецдакладчыка ААН па Беларусі можа быць карыснай як для ўрада краіны, так і для грамадства, асабліва ў плане вырашэння праблем, звязаных з правамі чалавека, свабоды слова, сродкаў масавай інфармацыі. “Урад Беларусі можа сімвалічна ставіцца да майго мандата, а трэба было б адносіцца практычна”, — заявіў Міклаш Харашці.

Заўважым, да сакавіка 2013 года М.Харашці павінен падрыхтаваць для Савета ААН першую версію спецдаклада, а прыкладна ў чэрвені выступіць з ім на пленарным пасяджэнні.

Паспрыяюць яго рабоце беларускія ўлады ці не — час пакажа. А пакуль ён, збіраючы інфармацыю, вымушаны сустракацца з прадстаўнікамі розных беларускіх структур за межамі краіны.

**Антон ЛІНКЕВІЧ.**

АВАЛЬНАЯ ЗАЛА

## *У Палаце прадстаўнікоў загаварылі па-беларуску*

*15 лістапада пры абмеркаванні закона “Аб народным мастацтве, народных промыслах (рамёствах) у Рэспубліцы Беларусь” усе шэсць дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, якія ўдзельнічалі ў дыскусіі, выступалі па-беларуску.*

Гэты факт здзівіў журналістаў нават больш, чым сам тэкст законапраекта. Хаця закон важны. Зараз у Беларусі больш за 11 тысяч чалавек займаюцца народным мастацтвам і народнымі рамёствамі. Гэту лічбу назваў намеснік міністра культуры Беларусі Тадэвуш Стружэцкі. Ён выказаў меркаванне, што такіх майстроў хутка стане яшчэ больш.

### ДАРЭЧЫ

*Цяперашнія дэпутаты Палаты прадстаўнікоў прыйшлі ў Авальную залу, даўшы выбаршчыкам самыя розныя абяцанні. Так, дэпутат ад Баранавічаў Аляксандр Сяцко падчас перадвыбарнай кампаніі абяцаў дабіцца, каб 23 лютага быў аб’яўлены выхадным днём. Ці памятае дэпутат пра сваё абяцанне? І наогул, ці ведае ён, што гісторыя Беларусі ніяк не звязана з датай 23 лютага?*

БЕЛАРУСЬ—ЕС

## *Майра МОРА: «Еўрасаюз пачынае другі этап перамоў з Беларуссю»*

*Кіраўнік прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Беларусі Майра Мора заявіла, што ЕС праводзіць перамовы з уладамі Беларусі.*



“Чакаецца другі раўнд тэхнічнага дыялога паміж Беларуссю і Еўрапейскім Саюзам, які адбудзецца на наступным тыдні ў Бруселі”, — сказала кіраўнік еўрапейскага прадстаўніцтва ў Мінску.

Заява была зроблена ў Мінску падчас Міжнароднай экспертнай канферэнцыі “Беларусь на скрыжаванні інтэграцыі: адносіны з ЕС у сітуацыі фарміравання Еўразійскага саюза”. Пры гэтым еўрапейскі дыпламат адзначыла, што перамовы ідуць складана: “Адносіны Беларусі і ЕС калісьці былі ў значна лепшай форме, чым цяпер”.

Па словах Майры Моры, галоўнае патрабаванне Еўрасаюза — “вызваленне і аднаўленне ў правах палітычных зняволеных”.

Прадстаўнік Еўрасаюза таксама нагадала, што беларускія ўлады самі абмяжоўваюць кантакты з Еўрасаюзам. Майра Мора нагадала аб праграме Еўрасаюза “Еўрапейскі дыялог мадэрнізацыі для Беларусі”, ад удзелу ў якой беларускія чыноўнікі фактычна проста адмовіліся.

СКАНДАЛ

## Здрадзіць радзіме...

### *22-гадовы рабочы завода “Нафтан” абвінавачваецца ў цяжкім злачынстве супраць дзяржавы*



“*Камітэтам дзяржаўнай бяспекі спынена супрацьпраўная дзейнасць грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, які займаўся па заданні замежнай разведкі зборам і перадачай інфармацыі палітычнага і эканамічнага характару...*” Навіна, якая нават для Беларусі з разраду нязвыклых.

*“...названы грамадзянін затрыманы супрацоўнікамі КДБ у момант закладкі тайніка са звесткамі, якія цікавяць замежныя спецслужбы. У дачыненні да затрыманага ўзбуджана крымінальная справа па ч.1 ст.356 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь “Здрада дзяржаве ў форме правядзення агентурнай дзейнасці”, праводзіцца комплекс аператыўна-вышуковых і следчых мерапрыемстваў, накіраваных на выяўленне іншых эпізодаў яго супрацьпраўнай дзейнасці. Названая асоба змешчана ў СІЗА КДБ”.*

Пра 22-гадовага аператара “Нафтана” **Андрэя Гайдукова** вядома няшмат. Ён з’яўляецца намеснікам кіраўніка нефармальнага маладзёжнага аб’яднання “Саюз маладых інтэлектуалаў”, якое не зарэгістравана, але існуе ўжо тры гады. Сябры Андрэя кажуць, што ён вызначаўся сярод іх сваёй высокай эрудыцыяй, добрым выхаваннем і прыроднай інтэлігентнасцю. Хлопец вучыцца на трэцім курсе хіміка-тэхналагічнага факультэта Полацкага ўніверсітэта і працуе на заводзе. Не выключана, што пра гэта цяпер можна гаварыць у мінулым часе, нягледзячы на тое што пад вартай хлопец утрымліваецца няшмат часу.

Андрэя затрымалі 8 лістапада ў Віцебску. Дома супрацоўнікі КДБ правяліператрус, забралі камп’ютар і ўсе носьбіты інфармацыі. А з 11 лістапада хлопец папоўніў спіс вязняў “амерыканкі”. Старшыня так званага “Саюза маладых інтэлектуалаў” Яўген Канстанцінаў кажа, што арышт Гайдукова не стаў для сябраў арганізацыі нечаканасцю:

*— Гэта вісела ў паветры. Апошнім часам ціск на нашых сябраў з боку КДБ узмацніўся. Пасля таго як мы летась, у ліпені, спрабавалі правесці Марш свабоды, нас усё часцей сталі “запрашаць на размовы” ў КДБ. Мне прапаноўвалі супрацоўніцтва, казалі, што не толькі не будуць нам перашкаджаць, але, наадварот, будуць усяляк дапамагаць. Галоўнае, каб мы дзейнічалі ў рамках дазволенага, гэта значыць яны хацелі мець падкантрольную ім маладзёжную структуру. Я жартаўліва адказваў, што падумаю, але разумеў, што гэта не можа доўжыцца шмат часу. А вось недзе з паўтара месяца таму Андрэй выступіў з ініцыятывай стварыць міжнародную маладзёжную арганізацыю. Ён нават і праект яе статута напісаў. Тры тыдні таму да яго прыйшлі супрацоўнікі КДБ і прапанавалі яму адмовіцца ад гэтай ідэі. Ён з імі і размаўляць на гэтую тэму не стаў, а яны ў адказ паабяцалі яму “шмат праблем”. Сказалі, што ён вельмі пашкадуе, але будзе позна.*

*Адным словам, яго арышт нас амаль што і не здзівіў. Але сама фармулёўка “здрада радзіме” — гэта, канешне, ужо занадта. Гэтага немагчыма было чакаць.*

*Зараз яны ўзяліся за кожнага з нас. Я ведаю, што сёння супрацоўнікі КДБ прыходзілі на маю мінулую працу. Я маю дзве вышэйшыя адукацыі, але працаваў на “Нафтане” рабочым. Мяне звольнілі ў ліпені 2011 пасля таго, як затрымалі за спробу правесці вулічную дэманстрацыю. Так што не выключана, што затрыманых па гэтай справе можа стаць і болей.*

Назіральнікі лічаць, што за арыштам Андрэя Гайдукова можа стаяць не толькі звычайны ціск на чарговую маладзёжную суполку. Як высвятляецца, “Саюз маладых інтэлектуалаў” падтрымаў Мемарандум “Нацыянальнай платформы” і такім чынам далучыўся да тых беларускіх грамадскіх структур, якія найбольш цесна працуюць над стварэннем глебы для будучага супрацоўніцтва Беларусі і Еўропы.

Старшыня каардынацыйнага савета “Нацыянальнай платформы” Уладзімір Мацкевіч лічыць, што чарговая “шпіёнская справа” можа пераследаваць некалькі мэт:

*— Так званы “Саюз маладых інтэлектуалаў” існуе тры гады, і ён, як і многія маладзёжныя суполкі ў нашай краіне, не зарэгістраваны дэ-юрэ. Праўда, асаблівай актыўнасці сябры “СМІ” не праяўлялі. Іх не было на мінулай канферэнцыі, не падавалі яны заяўку на ўдзел у мерапрыемстве, якое адбудзецца 16 лістапада. Адзінае, што я дакладна ведаю, гэта тое, што яны даволі актыўна ўдзельнічалі ў апошніх выбарах, дапамагалі аднаму з кандыдатаў у дэпутаты ад камуністаў. Мы нават не ведаем, колькі дакладна ў іх сябраў, толькі тое, што іх некалькі чалавек і ўсе яны з Наваполацка. Як недзяржаўнае аб’яднанне яны збіраліся займацца праектамі ў сферы адукацыі. Цяпер мы высвятляем усе абставіны, каб неяк рэагаваць на сітуацыю. Я не выключаю, што гэтая сітуацыя з Гайдуковым з’яўляецца правакацыяй, якую зрабілі дзеля таго, каб дыскрэдытаваць грамадзянскую актыўнасць усяго трэцяга сектара, усіх тых, хто працуе над рознымі праектамі супрацоўніцтва Беларусі і ЕС.*

***— Гэта можа быць звязана з “Усходнім партнёрствам”?***

*— Чаму не? “Нацыянальная платформа” стваралася перад першым форумам грамадзянскай супольнасці праекта “Усходняе партнёрства” ў 2009 годзе. Тады былі абвешчаны чатыры тэматычныя платформы, а беларуская дэлегацыя заявіла пятую — нацыянальную. Потым афіцыйны Мінск спрабаваў пазмагацца за “Усходняе партнёрства”. Перад прэзідэнцкімі выбарамі ў 2010 годзе Уладзімір Макей, тады кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта, спрабаваў выставіць замест рэальных недзяржаўных арганізацый створаны ім Грамадскі кансультацыйны савет. Мы не былі супраць ГКС, але хацелі, каб туды дэлегавалі прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці, але не тых, каго прызначыць сам Макей.*

Шчыра кажучы, можа, і не трэба ў тым, што адбылося, шукаць “вялікую палітыку”, але надта ўжо справа слесара Гайдукова дзіўная, беспрэцэдэнтная. Гісторыя з затрыманнем супрацоўнікамі КДБ 22-гадовага хлопца выклікае шмат пытанняў, на якія дагэтуль няма пэўных адказаў. Такое ўражанне, што паведамленне пра затрыманне прыйшло з экранаў чорна-белых тэлевізараў 1960-х.

Пра гэта кажуць і праваабаронцы. Яны не могуць каменціраваць юрыдычны бок справы, бо тут пакуль нічога не вядома, але Таццяна Равяка, напрыклад, нават западозрыла аўтараў публікацыі ў напісанні сцэнарыяў для дэтэктываў.

*— Здаецца, што ў нашым КДБ працуюць аматары дэтэктыўных шпіёнскіх раманаў, а не прафесіяналы, якія займаюцца сур’ёзнай справай. У цяперашні час развітых інфармацыйных тэхналогій нехта будзе закладваць нешта ў тайнік. Паўстае пытанне: ці супрацоўнікі КДБ самі не валодаюць сучаснымі тэхналогіямі, не ведаюць пра іх? Можа, яны ствараюць сцэнарый для шпіёнскага рамана?.. Багатую фантазію яны ўжо дэманстравалі не аднойчы. Мы ж усе памятаем, як у 2006 годзе, згодна з заявамі тагачаснага шэфа КДБ, усяму насельніцтву Мінска пагражала масавае атручэнне з-за нейкага пацука, якога апазіцыянеры хацелі кінуць у сеткі Мінскводаканала. Але ні пацука не знайшлі, ні тых, хто яго рыхтаваўся кідаць у пітную ваду.*

*Калі гаварыць сур’ёзна, то, натуральна, ёсць шэраг рэчаў у дзяржаве, якія з’яўляюцца сакрэтнымі. Але я нават уявіць не магу, якія сакрэты раздабыў гэты рабочы? Больш за тое, увогуле складваецца ўражанне, што самыя небяспечныя людзі ў нашай краіне — гэта слесары з Віцебшчыны: яны і шпіёны, і тэрарысты. Яны могуць авалодваць такімі таямніцамі, маюць доступ да такіх сакрэтаў, якія нават цяжка сабе ўявіць. Гэта ўжо выклікае смех.*

Праўда, не смешна сёння ні самому Андрэю, ні яго родным. Маці Андрэя ўжо перадала яму перадачу ў СІЗА з самымі неабходнымі рэчамі і спадзяецца, што адбылася нейкая памылка.

Артыкул, па якім абвінавачваюць хлопца, прадугледжвае пазбаўленне волі на тэрмін ажно да 15 гадоў.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПОД РУЖЬЕ!

## Косинец надел военную форму

*Идея поставить всю страну под ружье и создать так называемую территориальную оборону не забыта и не спущена на тормозах.*

13—14 ноября председатель Витебского облисполкома, генерал Косинец проводил военные сборы. Он собрал более 70 человек. В их числе руководители силовых структур Придвинья, председатели районных и городских исполнительных комитетов, представители предприятий-разработчиков инновационных средств защиты, вооружения и спецтехники.

Как сообщает газета “Витебский рабочий”, открылись сборы организационным собранием, на котором председатель Витебского облисполкома Александр Косинец подвел итоги выполнения мероприятий по совершенствованию территориальной обороны в Витебской области в текущем году и определил задачи на 2013-й. Далее участники сборов побывали на контрольно-пропускном пункте, расположенном на Бешенковичском шоссе, там состоялись комплексные учения. На базе склада хранения нефтепродуктов №1 РУП “Белоруснефть-Витебскоблнефтепродукт” состоялось занятие по организации охраны объекта территориальной обороны, планово-предупредительной системы наблюдения, пропускного и внутриобъектового режимов, а также ликвидации последствий проведенной диверсии с показом специальной техники.

А подводя итоги военных сборов, председатель Витебского облисполкома, начальник зоны территориальной обороны №4 Александр Косинец отметил, что войска территориальной обороны Витебской области, входящие в систему Вооруженных сил Республики Беларусь, сработали на отлично. Однако носить военные берцы сам Косинец так и не научился и грязь на полигоне месить явно не собирается. Его полевая форма по-прежнему дополнена легкими туфлями. Более того, так и осталось непонятным, зачем устраивать такие дорогостоящие экскурсии на полигоны для руководящего состава области и развлекать их “игрой в войнушку” с использованием реальной техники в условиях катастрофического дефицита средств.

**Игорь МОРОЗОВ.**





*Фото с сайта Витебского облисполкома.*

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## *Усіх выпусцілі*

*Па справе аб выбуху каля будынка ўпраўлення КДБ у Віцебску на ўчарашнюю раніцу ўжо не было ні затрыманых, ні падазроных.*

Пра гэта паведаміў агенцтву “Інтэрфакс” начальнік аддзела інфармацыі і сувязі з грамадскасцю Следчага камітэта Беларусі Павел Траулька.

Нагадаем, што 11 лістапада 2012 года ў 18.48 каля будынка УКДБ у Віцебску адбыўся падрыў невядомай прылады. Спецслужбы паведамілі пра затрыманне трох чалавек. Аднак пазней усіх адпусцілі.

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

## Нават пры фашыстах у Магілёве былі беларускамоўныя школы. А сёння — адзіны беларускамоўны клас з адзінай вучаніцай

Сітуацыя, якая склалася з беларускамоўнай адукацыяй у Магілёве, — гэта сапраўды нацыянальная трагедыя. Задумайцеся: у горадзе, дзе ўпершыню ў Вялікім Княстве Літоўскім ў канцы XVII стагоддзя пачалі ўводзіць у грамадскі ўжытак тэрміны “беларус”, “беларускі” і іх нават іншым разам выкарыстоўвала ў сваёй назве адзіная на ўсё Княства мясцовая праваслаўная епархія, цяпер застаўся толькі адзін беларускамоўны клас з адзінай у ім вучаніцай...

Як вядома, у цяжкія гады фашысцкай акупацыі Магілёў уваходзіў у тылавы раён групы нямецкіх армій, які не лічылі беларускім, таму што ў ім усё жыццё мясцовага насельніцтва ладзілася паводле рускіх нацыянальна-культурных стандартаў. Але нават гэтая акалічнасць не з’яўлялася перашкодай для адкрыцця і функцыянавання ў горадзе некалькіх беларускамоўных школ (а не класаў). Сёння ж палітычны рэжым Рэспублікі Беларусь не ў стане забяспечыць існаванне ў Магілеве нават аднаго беларускамоўнага класа, укамплектаванага дастатковай колькасцю вучняў. Во матэрыял для Кнігі рэкордаў Гінеса!

Лічу: за поўны развал беларускамоўнай адукацыі бацькі, настаўніцтва, грамадства нясуць толькі сімвалічную адказнасць. Уся віна ляжыць на дзяржаўных уладных структурах, бо менавіта адны яны, а не хто іншы, вызначаюць моўную палітыку краіны. Сутнасць палітыкі сённяшніх “правадыроў” у тым, каб цалкам адарваць беларусаў ад роднай мовы з мэтай канчатковай русіфікацыі, што павінна стаць гарантам адсутнасці любога супраціву стварэнню так званай саюзнай расійска-беларускай дзяржавы.

Пасля таго, як улады мэтанакіравана зрабілі рускую мову адзінай дзяржаўнай у краіне, ім зусім не патрэбнай стала беларуская. Таму і фактычна выключылі яе з навучальна-выхаваўчага працэсу вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. А пасля таго яна, зусім лагічна, стала непатрэбнай агульнаадукацыйнай школе, якая амаль паўсюдна стала рускамоўнай.

Марна было б спадзявацца, што ў такіх архінеспрыяльных для нашага роднага слова варунках бацькі гужам павядуць сваіх дзяцей у беларускамоўныя школы. Людзі нашы вельмі прагматычныя. Сем разоў адмераць і толькі затым ужо рэжуць... Зразумела, моўнае становішча ў адукацыі магло б быць і не такім катастрафічным, калі б з людзьмі маштабна, прафесійна і зацікаўлена вялі тлумачальную работу адпаведныя грамадскія арганізацыі, а таксама апазіцыйныя партыі і рухі. На жаль, такога не адчуваецца, што толькі на руку ўладам.

Скажыце, чаму ўсім разам не выказаць пратэст кіраўніцтву краіны супраць антынацыянальнай палітыкі ў сферы адукацыі? Для будучых пакаленняў навукоўцаў-гісторыкаў застанецца вялікай загадкай адсутнасць у архіўных справах за 1995—2012 гады матэрыялаў, што сведчылі б пра змаганне беларусаў за права на прыстойнае нацыянальна-культурнае жыццё.

Каб дамагчыся пазітыўных зрухаў, неабходна эвалюцыйным, цывілізаваным шляхам мяняць сістэму ўлады, для якой беларускі нацыянальны інтарэс быў бы важней за ўсё на свеце. Шкада, што падчас апошніх выбараў у парламент дэпутатаў з пазіцыяй цвёрдай нацыянальнай арыентацыі амаль няма.

Паўтараю, сітуацыя трагічная. Знікне канчаткова беларуская мова — знікнуць беларусы. А гэта значыць — знікне Беларусь.

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар.**

МЕРКАВАННЕ ПРАФЕСІЯНАЛА

## *«Давайце будзем шукаць шпіёнаў, каб выратаваць шэфа»*

Падпалкоўнік запасу, былы контрразведчык **Сяргей Аніська** пракаментаваў апошнія навіны са “шпіёнскага фронту”.

— Тайніковае паведамленне як метад практыкі спецслужбаў сапраўды існуе. Але ў век электронных тэхналогій складана меркаваць аб яго эфектыўнасці. Навошта рызыкаваць, хаваць запіску кудысьці пад бервяно, калі можна спакойна ўсё адправіць нашмат больш бяспечнымі спосабамі?.. Гэта як мінімум дзіўна выглядае. А што тычыцца магчымай вярбоўкі, то ў практыцы спецслужбаў ёсць такое: не абавязкова прыцягваць да супрацоўніцтва міністра або ўладальніка важных сакрэтаў. Часам вярбуюць людзей “на выраст”. Сёння ён слесар, а заўтра пачаў рабіць палітычную кар’еру. Яму нават могуць дапамагаць у гэтым росце. Іншымі словамі, тое, што Андрэй Гайдукоў з’яўляецца слесарам і не валодае ніякімі сакрэтамі, яшчэ ні пра што не гаворыць. Але мяне вельмі насцярожвае, што ўсе апошнія падзеі супалі з адстаўкай былога шэфа КДБ Вадзіма Зайцава. Складваецца ўражанне, што ўсе зацікаўленыя сабраліся і сказалі: “Давайце будзем шукаць шпіёнаў, каб выратаваць шэфа”.

АФІЦЫЙНА

## *Апарат скараціць, фінансаванне пакінуць*

Учора Аляксандр Лукашэнка правёў нараду па пытанні рэфармавання МУС.

Галоўная думка, якая прагучала: неабходна скараціць колькасць міліцыі, вызваліць міліцыю ад неўласцівых ёй функцый, прывесці вайсковы складнік у адпаведнасць з патрабаваннямі сённяшняга дня.

Лукашэнка падкрэсліў, што такую работу трэба правесці на ўсіх узроўнях: ад участковага інспектара міліцыі, надаўшы яму асноўную ўвагу, да кіраўнічых апаратаў органаў унутраных спраў.

Пры гэтым было адзначана, што аб’ёмы фінансавання МУС захаваюцца. Як адзначыў Лукашэнка, гэта дазволіць павялічыць матэрыяльнае стымуляванне супрацоўнікаў, не абцяжарваючы дзяржаўны бюджэт дадатковымі выдаткамі.

*“Інакш кажучы, усё, што атрымаецца сэканоміць у ходзе рэфармавання МУС, павінна застацца і застанецца ў вас для таго, каб размеркаваць у сувязі з вашымі патрэбнасцямі”,* — сказаў Лукашэнка.

Народная Воля http://www.nv-online.info 16 ЛІСТАПАДА 2012 г.

ТРАГЕДЫЯ

# Смерць Уладзіка

*Мінск у шоку: пад коламі Porsche Cayenne загінуў трэцякласнік 23-й школы, што ў мікрараёне "Сухарава". Трагедыя адбылася на тэрыторыі навучальнай установы, літаральна ў 15 метрах ад школьнага ганка.*

## «Божа, як ты мог дапусціць такое?!»



Маці Уладзіка (справа): "Божа, як ты мог дапусціць такое?!"

Якіх толькі версій трагічнай смерці дзіцёнка не прыдумана! Ёсць нават містычная — пра "гіблае месца": у жніўні гэтага года непадалёк, на той жа вуліцы, разам з двума дзецьмі выкінулася з акна 9-га паверха журналістка БЕЛТА.

— *Я нядаўна атрымала правы. Але ведаеце што? Мне хочацца зараз імі падцерціся. Не магу на ўсе гэтыя машыны глядзець. Кожная з іх — патэнцыяльны забойца. Ды каб яны праваліліся!* — эмацыянальна гаворыць маці шасцярых дзяцей, трое з якіх ходзяць у школу №23.

Мы стаім на прыступках школы. Побач, на месцы трагедыі, — кветкі, дзіцячыя цацкі, свечы, запісачкі і малюнкі. Увесь дзень іх нясуць сюды школьнікі і бацькі ў памяць пра 9-гадовага Уладзіслава Грудзьева, які так недарэчна загінуў пад коламі магутнага красовера. Дарэчы, адзінага сына сваёй маці.

Ля стыхійнага мемарыялу плача маладая дзяўчына, літаральна б'ецца аб зямлю, прыгаворваючы: *"Я ненавіджу гэтую школу, ненавіджу гэтыя машыны!"* Прыняць яе можна за школьніцу. Бацькі падказваюць: гэта маці Уладзіка. *"Божа, як ты мог дапусціць такое?!* — уздымае яна рукі да неба. — *Чаму ты адабраў у мяне майго любага хлопчыка?!"*

— *Трэба вымятаць іх адсюль паганым венікам, каб ведалі, — дырэктарку, завучаў... Што гэта такое, зрабілі перад самай школай нейкі праспект, кожны раз за дзіця трасешся!* — абураецца бацька хлопчыка, аднагодкі загінуўшага Уладзя. — *Калі выбары ішлі, дык сюды мянтоў нагналі. Я ім кажу: ну добра, хоць нейкі час тут на машынах сваіх швэндацца не будуць.*

Шмат хто з бацькоў вучняў, з якімі мне давялося паразмаўляць, вінаватым лічаць уладальніка шыкоўнага, дарагога аўтамабіля. Маўляў, гэтыя "крутыя" зусім ужо абарзелі. Цяжка свае задніцы лішнія некалькі сотняў метраў пранесці, трэба абавязкова пад'ехаць да ганка школы! Такі ж настрой і ў шматлікіх інтэрнэт-каментарыях. І гэта сведчыць пра наяўнасць у краіне сацыяльнага расслаення, якое стварае негатыўны псіхалагічны фон і спрыяе росту нянавісці ў грамадстве. Але ці не пераводзіць гэта стрэлкі адказнасці ў няправільны бок?!

Бліжэй за ўсіх да ісціны былі малыя, вучні школы, у якіх я пытаюся, хто, на іх думку, вінаваты ў тым, што здарылася. "*Напэўна, тыя, хто так зрабіў, што тут дарога праходзіць. Праекціроўшчыкі, ці як іх там?"* — кажуць дзеці.

## Пасля трагедыі ДАІ прачнулася

Дарэчы, прадстаўнік праектна-будаўнічай арганізацыі, якая пабудавала 23-ю школу, якраз прыйшоў сюды інкогніта. Ён быў, як мне падалося, нападпітку, вельмі разгублены, амаль што ў шокавым стане. І ўсё паўтараў са слязьмі ў вачах: *"На жаль, хлапчанё ўжо не вернеш. Які жах!.."* Здавалася, ён прыйшоў сюды пакаяцца.

Але, пагутарыўшы з ім, я зразумеў, што ў першую чаргу прыйсці сюды і рваць на сабе валасы павінны былі прадстаўнікі камісіі, якая прыняла пабудаваную школу ў такім выглядзе, — ДАІ і Мінскэнерга. Менавіта імі створаны перадумовы, з-за якіх адбылася трагедыя.

Школа №23 новая, пабудавана тры гады таму. Вельмі прыгожая ўнутры і знадворку. Толькі як камісія магла прыняць яе з такой прылеглай тэрыторыяй — літаральна шашой, без ніводнага "ляжачага паліцэйскага"?! Савецкія школы значна саступаюць ёй у прыгажосці, але яны звычайна былі аднесены далей ад любых аўтамабільных дарог і абгароджаны па перыметры, хоць тады аўтатранспартная праблема не стаяла так востра, як цяпер. Заезды заўсёды рабіліся ззаду будынка.

Недалёка ад школы №23, таксама на вуліцы Панчанкі, знаходзіцца школа №199. Я падышоў да яе і пабачыў, што яна таксама не абгароджана, яе атачаюць забітыя машынамі дваровыя праезды. Што за вар'яцкая тэндэнцыя?

Мой суразмоўца кажа, што менавіта ДАІ выступіла за прыняцце найбольш небяспечнага варыянту пад'езду да школы службовага транспарту, у праекціроўшчыкаў ён быў іншы, па ім дарога не праходзіла перад школьным ганкам. *"Прадстаўнікі аддзела ДАІ Фрунзенскага райвыканкама, магчыма, нават не выязджалі на месца перад тым, як прыняць школу ў эксплуатацыю,* — кажа мой суразмоўца. — *Адзінае, чым яны "засцераглі" дзяцей ад трагедыі, — вывесілі нястрогія знакі на пад'ездзе да школы".* Гэта дарожны знак пад нумарам 3.2 — рух забаронены. Для тых, хто не ведае дарожных знакаў, нагадаю: яго дзеянне, згодна з правіламі, не распаўсюджваецца ў тым ліку на транспартныя сродкі, што належаць грамадзянам, якія пражываюць або працуюць у азначанай зоне. Другі знак пад нумарам 3.28 — стаянка забаронена — не забараняе спыненне аўто.



Уладзік пасля заканчэння 1-га класа.

Выходзіць, што настаўнікі і бацькі, якія пад'язджалі да школы на сваіх аўтамабілях, нават не парушалі ніякіх правіл. І такая трагедыя магла здарыцца ў любы момант. Бо тут увесь час, асабліва раніцай і ўвечары — калі заняткі пачынаюцца і заканчваюцца — шмат машын і дзяцей. І заўважце — зараз гэта прыцемкі. А дарога на ўсю шырыню школьнага будынка ў цёмны час сутак застаецца абсалютна неасветленай! І тут ужо пытанні да Мінскэнерга. Чаму яны палічылі залішнім асвятліць добрыя 250 метраў праезнай часткі? Якімі меркаваннямі яны кіраваліся — незразумела. *"А мы ж за свае грошы гэтыя слупы не купім, не паставім",* — справядліва заўважыла намесніца дырэктара школы Любоў Пятроўна Мацвеева.

Дарэчы, прадстаўнікоў школьнай адміністрацыі мне давялося чакаць "у засадзе", бо ў школу да іх мяне не пусцілі. На той падставе, што людзям трэба "прыйсці ў сябе", яны вельмі перажываюць, ім не да журналістаў.

— *Вы не крыўдуйце, мы не толькі ваша выданне не пускаем, усім аднолькава адмаўляем,* — сказалі мне на вахце. А вось гэта ўжо дакладна было няпраўдай, бо на маіх вачах у школу бесперашкодна патрапілі журналісты адной дзяржаўнай газеты. І спакойна ўзялі інтэрв'ю ў дырэктара Аксаны Стэфанаўны Кокаравай, як я даведаўся потым...

Зразумела, што перарабіць зараз пад'езд — справа нялёгкая. Дык тое і не патрэбна! На самай справе трагедыі магло б і не быць, калі б замест двух нястрогіх знакаў "ні аб чым" там вісеў адзін "Уезд забаронены" (па-народнаму "кирпич") з выключэннем для аўтатранспарту камунальна-бытавых службаў. А каб прывучыць вадзіцеляў яго не ігнараваць — дастаткова было б некалькі тыдняў пастаяць даішнікам.

Па словах бацькоў, машына дзяржаўнай аўтаінспекцыі была тут нячастым госцем.

Але пасля трагедыі ДАІ прачнулася — прыехалі з эвакуатарам забіраць аўтамабілі, якія спакойна стаялі сабе пад знакам, што забараняе стаянку. Пытаюся ў інспектара, як яны дапусцілі такую трагедыю, чаму не былі своечасова прыняты меры, напрыклад, не пастаўлены шлагбаўм, пра які казалі бацькі вучняў, праекціроўшчык і завуч. "*А мы не абавязаны гэтага рабіць. І не можам. Пра тое мусіла паклапаціцца адміністрацыя школы, ліст напісаць".* Спасылаўшыся на завуча, кажу, што яны нібыта пісалі падобныя лісты, званілі. Інспектар сапе, не адказвае. І на пытанне пра наяўнасць іншага, больш бяспечнага варыянту пад'езду да школы ў будаўнічым праекце не адказвае — маўляў, не кампетэнтны.

Пытаюся, ці з'явіцца шлагбаўм хаця б пасля таго, што тут здарылася. *"Зараз яны тут, магчыма, працітанкавыя яжы паставяць..."* — адгукаецца з сарказмам.





Не чакаючы, пакуль нешта зробіць адміністрацыя школы ці іншыя афіцыйныя органы, неабыякавыя бацькі ўласнаручна ўзвялі на дарозе невялікую барыкаду з аўтамабільных шын і тратуарнай пліткі. Там, дзе мог бы знаходзіцца шлагбаўм, які выратаваў бы жыццё 9-гадовага Уладзя...

Але тую барыкаду разбурыў вадзіцель машыны камунальна-бытавой службы. У пралом следам за ім спрабавалі прашмыгнуць іншыя аўтамабілі, але прысутнасць журналіста з фотаапаратам напагатове іх стрымлівала. Толькі журналістаў заўтра ўжо там не будзе...

У інтэрнэт-каментарыях да інфармацыі пра смерць Уладзя часта сцвярджалася, быццам бацькі даўно званілі ва ўсе званы і трубілі ва ўсе трубы, каб з небяспечнай дарогай каля школы нешта зрабілі. Падобна, гэта не зусім так. Многія з бацькоў шчыра прызнаваліся, што раней дарога іх не надта турбавала. Адна жанчына з пачуццём дадала, што не можа сабе гэтага дараваць: *"Мы, бацькі, таксама адказныя за тое, што здарылася. Бо нічога, па сутнасці, не рабілі, чакалі, пакуль смажаны певень дзяўбне".*

Так і жывём. У чаканні смажанага пеўня. Можна сказаць, што школа №23 — гэта ўся Беларусь у мініяцюры.

**Дзмітрый ГАЛКО.**

**P.S.** Учора адбылося пахаванне Уладзіслава Грудзьева. Хлопчыка ў апошні шлях суправаджала ўся школа... Супраць 37-гадовага кіроўцы Porshe Cayenne Следчым камітэтам па Мінску распачата крымінальная справа па ч.2 арт.317 КК (парушэнне правіл дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека). Мера стрымання ў дачыненні да яго не абіралася.

ОФИЦИАЛЬНО

## *Россия потеряла до 2,5 миллиарда долларов*

*Об этом газете "Ведомости" заявил министр энергетики России Александр Новак.*

**— Правда ли, что российская сторона потребовала от Беларуси компенсировать 1,5 миллиарда долларов за историю с "растворителями"?** — так звучал один из вопросов интервью с министром.

— По разным оценкам, потенциальные потери российского бюджета составляют от 1,5 миллиарда до 2,5 миллиарда долларов.

**— Беларусь будет поставлять нефтепродукты в счет этих денег?**

— Между Россией и Беларусью подписан индикативный баланс о поставках нефти и нефтепродуктов. Сейчас белорусская сторона заявляет о 23 миллионах тонн поставок нефти на следующий год. В этом году у нас был баланс на 21,5 миллиона тонн. То есть они увеличили предложения по переработке на своих нефтеперерабатывающих заводах. Естественно, что столько нефти для внутреннего потребления не требуется.

**— Внутреннее потребление у них 6 миллионов тонн.**

— Да. Они должны делать возврат нефтепродуктов в Россию в рамках годовых балансов.

**— Объем оговаривается?**

— Да, мы сейчас прорабатываем и до конца ноября согласуем эту цифру.

**— На условиях процессинга?**

— По-разному. Мы будем предлагать, чтобы и наши компании, которые являются собственниками нефтепродуктов, и белорусские компании в той пропорции, в которой они являются собственниками, обязаны были вернуть в Россию и продать у нас на рынке полученные нефтепродукты, прежде всего автобензины.

ІНВЕСТЫЦЫІ

## *Мясніковіч прываблівае індыйскіх бізнесменаў*

Падчас беларуска-індыйскага бізнес-форуму ў Нью-Дэлі прэм'ер-міністр Беларусі зрабіў некалькі прапаноў індыйскім бізнесменам. У прыватнасці, прапанаваў дзелавым колам Індыі прыняць удзел у прыватызацыі ААТ "Гродна Азот", разгледзець магчымасць інвесціравання ў развіццё Баранавіцкага баваўнянага аб'яднання.

Асаблівую ўвагу Міхаіл Мясніковіч надаў партнёрству дзвюх краін у фармацэўтычнай сферы. У Беларусі фармрынак хутка расце і ацэньваецца прыкладна ў 700 млн долараў. У АЭП гэты рынак складае каля 10 млрд долараў, і не менш за 50 працэнтаў ад гэтага аб'ёму — імпарт. "Інвестары, якія прыйдуць у Беларусь з гэтымі праектамі, стануць першымі ў гэтым высокадаходным сегменце", — падкрэсліў Мясніковіч.

## *Не спяшаюцца...*

*У Міністэрстве эканомікі паведамілі, што прыток замежнага капіталу ў эканоміку Беларусі па-ранейшаму застаецца невысокім.*

Паводле даных Мінэканомікі, прыцягненне прамых замежных інвестыцый (ПЗІ) на чыстай аснове за студзень—жнівень склала 956,5 млн долараў ЗША (па прагнозе — 3,7 млрд долараў).

"Такім чынам, казаць аб актыўнай і поўнамаштабнай інвестыцыйнай дзейнасці па тэхнічным пераўзбраенні прадпрыемстваў і ўкараненні перадавых тэхналогій за кошт прыцягнення замежнага капіталу не даводзіцца", — канстатавалі ў Мінэканомікі.

СВАБОДА СЛОВА

## «Правяраюць, на якія грошы выдаваўся часопіс...»

*Былы галоўны рэдактар часопіса "Arche" Валер Булгакаў з'ехаў з Беларусі. "Народная Воля" высвятляла, ці адаб'ецца ягоны ад'езд на дзейнасці часопіса.*

Заснавальнік часопіса **Андрэй Дынько,** да якога мы звярнуліся за каментарыем, заўважыў, што пытанне не зусім па адрасе.

"*Я маю з часопісам толькі фармальную сувязь, бо ў свой час быў яго заснавальнікам,* — тлумачыць Андрэй. — *Я не ў курсе дэталяў гэтай справы. Думаю, гісторык Алесь Пашкевіч можа адказаць на вашы пытанні — ён цяпер кіруе выданнем".*

"Народная Воля" скарысталася парадай і звярнулася да **Алеся Пашкевіча**, які цяпер выконвае абавязкі галоўнага рэдактара часопіса.

"*Рашэнне аб адхіленні Булгакава ад пасады галоўнага рэдактара было прынята заснавальнікам тады, калі ў часопіса толькі пачаліся праблемы, і зроблена гэта было для таго, каб ход праверкі асабістай дзейнасці Булгакава не перашкаджаў працэсу падрыхтоўкі і выдання часопіса,* — распавёў Пашкевіч. — *Нават у самой фармулёўцы рашэння заснавальніка закладвалася, што гэтая мера часовая і канчатковае вырашэнне пытання будзе залежаць ад ходу справы і яе вынікаў. З таго часу сітуацыя памянялася, цяпер Валер Булгакаў знаходзіцца за межамі Беларусі, хоць гэта і не азначае, што ён з'ехаў туды назусім. Сам ён, прынамсі, такога ніколі не казаў. З часопіса Булгакаў звольніўся, але працягвае цікавіцца яго справамі, бо лёс выдання, натуральна, яму неабыякавы. Сама ж сітуацыя яшчэ далёкая ад канчатковага высвятлення, і для аднаўлення паўнавартаснай дзейнасці часопіса трэба вырашыць яшчэ нямала пытанняў. Самае галоўнае — у нас дагэтуль заблакіраваны рахунак. І, мяркуючы па адказе, які мы атрымалі з ДФР, фінансавыя следчыя пакуль не бачаць падстаў, каб яго разблакіраваць. Акурат учора мы падалі ў Міністэрства інфармацыі дакументы на змену афіцыйнага заснавальніка выдання і яго выдаўца, што вымагае перарэгістрацыі СМІ. Што з гэтага выйдзе? Пажывём — пабачым..."*

Што да палітыкі часопіса, то яна, перакананы Пашкевіч, калі і зменіцца, то не радыкальна.

*"Наўрад ці будуць нейкія надта вялікія змены, бо на працягу апошніх гадоў я, з'яўляючыся намеснікам галоўнага рэдактара "Arche", непасрэдна адказваў за змест большасці нумароў часопіса і сам рыхтаваў яго да друку,* — гаворыць Алесь. — *Хоць, натуральна, пэўных карэкціровак выключаць нельга — усё ж самі знешнія ўмовы нашай дзейнасці ў любым выпадку будуць ужо іншыя".*

Калі чакаць наступнага нумара часопіса?

*"Падрыхтоўка наступных нумароў не прыпынялася, некалькі нумароў цалкам гатовы да здачы ў друкарню, і мы прыкладаем усе намаганні, каб часопіс аднавіў выхад, як толькі гэта стане магчымым",* — абяцае Пашкевіч.

Алеся Пашкевіча, як і іншых супрацоўнікаў часопіса, запрашалі на размову спецыялісты ДФР. Ці заведена крымінальная альбо адміністрацыйная справа, у рамках якой расследуецца справа часопіса "Arche"?

*"Крымінальнай справы пакуль што, здаецца, не заведзена, адбываецца, як нам гавораць, паглыбленая праверка дзейнасці часопіса, у рамках якой нашых супрацоўнікаў выклікаюць на размовы,* — распавядае гісторык. — *Мяне таксама выклікалі на размову, я даваў пэўныя тлумачэнні, але гэта было дастаткова даўно, і з таго часу мяне асабіста больш не трывожылі".*

На якіх момантах дзейнасці часопіса засяроджваюць асаблівую ўвагу фінансавыя следчыя?

*"Напрыклад, правяраюць, на якія грошы выдаваўся часопіс,* — тлумачыць Пашкевіч. — *Між іншым, цікавіць іх і тое, што значная частка грошай бралася з прыватных ахвяраванняў. Цікавіць таксама, на якой паперы друкавалася выданне, — у следчых ёсць сумневы, што мы законна набывалі на Шклоўскай папяровай фабрыцы газетную паперу. Таксама цікавяць тыя кніжныя выданні, за выпуск якіх быў адказны Валер Булгакаў. Па гэтых пунктах вядзецца праверка. А які пункт для супрацоўнікаў ДФР найбольш цікавы і перспектыўны — нам не вядома, трэба было б спытаць у іх саміх..."*

**Марына КОКТЫШ.**

### З ЭФІРУ

*"Мяне могуць пасадзіць у турму на неакрэслены тэрмін,* — цытуе Булгакава Радыё Свабода. — *Калі сплюсаваць усе тры артыкулы, якія распрацоўваюцца цяпер супраць „Arche", набярэцца гадкоў на сем. Я выключаю сітуацыю, што ўсе артыкулы будуць пацверджаны ў судзе. Але сітуацыя цяжкая. Калі столькі ўсяго вакол цябе, вельмі цяжка захоўваць поўную безразважнасць".*

### З ГІСТОРЫІ СПРАВЫ

*Валер Булгакаў 18 кастрычніка быў пакараны Гаспадарчым судом Гродзенскай вобласці паводле абвінавачвання ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці — за продаж кніг і часопіса. Штраф склаў 500 тысяч рублёў. Падаткавікі таксама арыштавалі больш за пяць тысяч асобнікаў кніг і часопіса. Затрымалі Булгакава ў Гродне 14 верасня падчас прэзентацыі новай кнігі.*

*Напрыканцы кастрычніка Беларускае тэлебачанне ў праграме крымінальнай хронікі "Зона Х" прадэманстравала два сюжэты пра справу "Arche". У прыватнасці, гаварылася, што выдаўцы часопіса "Arche" абвінавачваюцца ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці, што рахункі выдання арыштавалі, а таксама вынялі 5 з паловай тысяч асобнікаў кніг, выдадзеных пад рэдакцыяй Валера Булгакава. Паводле сцвярджэнняў аўтараў сюжэту, гэтая літаратура змяшчае "альтэрнатыўны погляд на гісторыю акупацыі Беларусі ў гады вайны".*

ШТО ТАМ, НА ЗАВОДАХ?

# «Салодкае» жыццё забяспечана...

*Падобна на тое, што за наша "салодкае" жыццё няма чаго хвалявацца: толькі адзін з чатырох цукроварафінадных камбінатаў — Слуцкі — вырабіў на сёння з буракоў новага ўраджаю блізу 70 тысяч тон цукру. І гэта не апошняя кропка...*

За верасень-кастрычнік мясцовыя цукраробы перапрацавалі 514 тысяч тон караняплодаў. У гуртах яшчэ дзясяткі тысяч тон сыравіны... *"Сёлета завод працуе з самай максімальнай эфектыўнасцю за ўсю сваю гісторыю,* — кажа старшыня назіральнага савета прадпрыемства Восіп Дапіра. — *Мы перапрацоўваем кожныя суткі па 8574 тоны цукровых буракоў. Гэта не толькі наш лепшы вынік, але і рэкорд сярод іншых цукраробчых прадпрыемстваў Беларусі".*

Спадару Дапіру і ягонаму аптымізму цалкам давяраю, бо ведаю яго яшчэ з 1969 года... Тады малады інжынер-тэхнолаг зарэкамендаваў сябе не толькі як талковы спецыяліст, але і як умелы арганізатар вытворчасці. Нездарма яго паклікалі ўзначаліць змену, і яна за кароткі тэрмін стала лепшай на заводзе. Дзякую лёсу, што я юнаком патрапіў на працу якраз у тую змену, пад крыло Восіпа — інтэлігентнага, сумленнага і цалкам адданага сваёй справе чалавека. Ён ведаў кожнага ў твар, клапаціўся не толькі пра тэхпрацэс, але і пра бытавыя ўмовы людзей, пра стан душы кожнага падначаленага яму спецыяліста, простага рабочага... І яму плацілі тым жа — удзячнасцю. Да гэтай пары захоўваю ў памяці эпізод, калі змене ўручалі пераходны Чырвоны сцяг, а маёй брыгадзе цэнтрыфугоўшчыкаў — грамату пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва... Цяпер, можа, і смешна, але на той момант спявала душа, сэрца поўнілася радасцю. І можа, якраз тады ў свядомасці нараджаўся парастак веры — што ўсе мы людзі, а не вінцікі, што існасць жыцця не вымяраецца адным рублём; што вартасць чалавека — у ягоным служэнні справе, людзям і Айчыне...

На жаль, гэтыя ўніверсальныя і, здавалася, такія простыя рэчы для сучаснай моладзі — амаль пусты гук... Можа, перабольшваю, але цяперашняе пакаленне (калі не ўсё, то пераважная яго большасць) страціла нешта вельмі важнае, можа, нават незваротна страціла... І ад гэтага робіцца сумна, бо адным сытым прагматызмам шчасця не нажывеш — якім бы яно салодкім ні здавалася...

Але вернемся да рэальнай "салодкасці", якая вымяраецца абсалютнымі лічбамі і працэнтамі. Па словах старшыні назіральнага савета Восіпа Дапіры, *"сярэдняя цукрыстасць караняплодаў сёлета перавышае 16 працэнтаў. А ў апошнюю дэкаду цукровыя буракі, якія паступілі на завод у канцы кастрычніка і ў лістападзе, увогуле мелі рэкордны паказчык — 16,59 працэнта цукрыстасці. Летась — для параўнання — толькі 13,5 працэнта".*

*"Калі ўсё пойдзе па плане, без збояў,* — кажа спадар Дапіра, — *то прадпрыемства закончыць перапрацоўку буракоў новага ўраджаю да 10 студзеня".* На гэты тэрмін случчане перапрацуюць як мінімум адзін мільён тон сыравіны. Але ўжо відавочна, што аб'ёмы паставак цукровых буракоў на завод перакрыюць і гэтую лічбу. Словам, "салодкае" жыццё ўсім нам забяспечана. Пытанне толькі — па якім кошце...

**Георгій ЧЫГІР.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
16 ЛІСТАПАДА 2012 г.

БЕЛАРУСЬ: МОДЕРНИЗАЦИЯ, ВЗГЛЯД В ЗАВТРА

# Юлия ЛЯШКЕВИЧ: «Нет своих идей — хватайтесь за чужие»

*Рекламист и создатель многих успешных белорусских брендов Юлия Ляшкевич с сожалением признает: отечественным политикам сильно не хватает консультаций профессиональных специалистов по пиару.*

*Вместе с "Народной Волей" Юлия рассуждает над тем, что можно сделать, чтобы лозунги политиков были громкими, а выступления — запоминающимися.*



Недавние парламентские выборы показали: наши оппозиционеры (и, кстати, не только они) не выдерживают даже самого лояльного сравнения с коллегами из Европы и США. И дело не в декларируемых истинах или цене костюма. Когда смотришь на западного государственного деятеля, веришь, что он знает, что делает, и использует каждый шанс, чтобы это доказать.

Что мешает нашим соотечественникам, занятым на политической ниве, быть такими же убедительными? А может, у нас просто нет знатоков политического PR?

— Мой небольшой рабочий опыт во время предвыборной кампании показал, что у нас действительно нет профессиональных политических пиарщиков, — *подтверждает Юлия.* — И это очень заметно. Хотя в последнее время болото немного растряслось благодаря заявлениям Зенона Пазьняка. У нас в политике наконец-то начались внутренние склоки! Оппозиционеры начали пинать друг друга, хоть делать это так, как в истории с **Александром Федутой** и **Виталием Рымашевским,** — не комильфо.

Нужно помнить, что любая политическая реклама прежде всего рассчитана на людей. Но борьба между собой за людской интерес кажется оппозиционным политикам излишней, ведь есть уже общий оппонент. Поэтому и не было ощущения настоящей политической борьбы. Не мучались люди так, как это было во время дебатов в Америке. Не узнавали, как нужно себя вести, как подавать, как реагировать на выпады соперника.

**— Неужели никто из политиков в последнее время не смог проявить себя? Например, во время все тех же парламентских выборов.**

— К сожалению, отсутствие грамотного пиара стало очень заметно во время дебатов кандидатов в депутаты, когда выступали самые разные люди. Говорили, что хорошо выступил **Анатолий Лебедько**. Поверьте мне как профессионалу — он выступил плохо. Это было видно и по жестам, и по тому, что он говорил, и, главное, по неумению быстро и четко реагировать на слова соперника. Можно привести конкретный пример. Оппонент Анатолия Лебедько **Евгений Крыжановский** подначивал его: мол, говорил, что если не выпустят политзаключенных, то все демократические кандидаты снимутся с выборов. То есть незаметно для себя он признал существование политзаключенных в нашей стране! На это должен был молниеносно среагировать человек, который понимает хоть что-то в политическом PR. Но у Анатолия Лебедько была своя установка, с которой он шел, как с флагом, вперед...

**— А может, политический пиар просто некоторым деятелям не по карману? Или им лень учиться?**

— Однозначно виною всему лень. Когда в Беларуси появились первые рекламные агентства, их специалисты читали много книг по пиару, чтобы узнать что-то новое. Даже над самым мелким проектом мы работали очень тщательно, борясь между собою. На самом деле все можно постичь, только нужно тренироваться.

По кандидатам в депутаты было видно, что никто не удосужился записать свое выступление на видео, чтобы посмотреть со стороны, как он ведет себя перед телекамерой. Сейчас, когда в любом телефоне и фотоаппарате есть функция видеозаписи, это не требует огромных затрат.

Кроме того, можно оттачивать искусство спора. В средневековье во время занятий риторикой один семинарист должен был защищаться от нападок своего товарища, который играл роль адвоката дьявола. Потом они менялись местами. Отличная практика, почему бы ее не использовать? И не нужно говорить, что нет возможностей.

В этом случае показателен пример шансона. Долгое время все делали вид, что его просто не существует. Хотя эта музыка собирала залы поклонников. Когда тебе предоставляется шанс, нужно быть готовыми.

Еще пример. Появилась информация о том, что напротив Куропат строят развлекательный центр. И что делает Партия БНФ, которая уже давно ассоциируется с этим местом? Молчит неделю! А когда их спрашивают, почему же они молчат, говорят: *"Не было часу..."* Ну что это такое?!

С точки зрения любого рекламщика, у партии есть огромный плюс, о котором многие политики только мечтают. Это бренд. А у них *"не было часу"*...

**— Получается, что, кроме потерпевшей неудачу Партии БНФ, в белорусской политике других брендов нет?**

— На протяжении долгого времени и фактически до последних лет таким брендом была Партия БНФ — это правда. Огромное количество людей 30—40 лет даже в последние президентские выборы интересовало, кто будет баллотироваться от БНФ. Но за последние два года Партия БНФ сильно сдала свои позиции, начиная с неудачного кандидата в президенты и заканчивая историей с Куропатами. Партия БНФ фактически умерла... Но я еще верю в ее перезагрузку, в то, что бренд может возродиться. Ведь что бы ни придумывали и ни кричали, "Жыве Беларусь!" остается самым лучшим лозунгом. И связан он с БНФ.

**— С хорошими лозунгами у нас действительно беда. Одни не предлагают ничего, кроме "Беларусь в Европу...", а президент вечно обещает бороться с коррупцией. Заезженные пластинки...**

— Хороший лозунг сложно придумать. За ним должна быть история, простая, понятная и сильная динамика. Слоган "Жыве Беларусь!" кричат до сих пор, на смену не пришло ничего нового и яркого. Когда-то был промежуточный вариант — минислоган **Александра Козулина** ***"Саша, где деньги?".*** Он до сих пор узнаваем и вызывает улыбку. После этих слов штаб Козулина должен был использовать фразу по полной: выпустить карикатуры, значки, майки. Такие вещи должны подхватываться мгновенно и распространяться. К сожалению, этого не произошло...

Интересно, что у нас прижилась фраза ***"Давай, до свидания!".*** Ее использовали почти все независимые СМИ.

А политикам я бы посоветовала держать нос по ветру и хвататься хотя бы за чужие идеи...

**Мария МАЛЕВИЧ.**

ДЫПКУР'ЕР

## Польская амбасада гатова выдаваць больш віз беларусам

Як паведаміў пасол Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка, у 2011 годзе польскія консульствы ў Беларусі выдалі 300 тысяч віз, а за 10 месяцаў гэтага — ужо 294 тысячы віз. Чакаецца, што да канца года будзе выдадзена да 350 тысяч віз.

— *І ўсё гэта робіцца без павелічэння штату консулаў,* — заявіў дыпламат. — *Беларускі бок не пагаджаецца на павелічэнне колькасці польскіх консулаў у Беларусі, нягледзячы на ўсе нашы просьбы.*

Спадар Шарэпка прызнаў, што Беларусь не зацікаўлена ў лібералізацыі візавага рэжыму, у прыватнасці, не рэагуе на адпаведныя прапановы з Бруселя, якія былі перададзены ў Мінск яшчэ ў чэрвені мінулага года.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## «Прашу прабачэння ў беларускіх грамадзян»

*Пасол Польшчы прызнаў, што беларусам складана атрымаць візу «на закуп», бо дзейнічае група праграмістаў-спекулянтаў.*

Тысячы чалавек штогод карыстаюцца магчымасцю атрымаць гадавы "шэнген" ў польскім пасольстве і свабодна ездзіць па Еўропе. Але ў апошні час зарэгістравацца стала вельмі складана. З'явіліся пасрэднікі, якія прапануюць аказаць дапамогу за немалую суму. Сітуацыю пракаментаваў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка.

*"Гэта самае балючае пытанне. Сапраўды, ёсць велізарная праблема,* — заявіў ён. — *Нехта прыдумаў тут добрую сістэму, якая, калі мы даём магчымасць рэгістрацыі, аўтаматычна блакіруе яе. Мы будзем спрабаваць шукаць спосаб, каб людзі на гэтым не зараблялі грошы, таму што гэта пасрэднікі, якія спрабуюць нажыцца на вашых праблемах. Існуе група (я не ведаю, злачынная ці не), якая мае добрых праграмістаў. Яны распрацавалі нейкую методыку, якая дазваляе блакіраваць пэўную колькасць месцаў, якія потым прадаюць. У тым ліку прадаюць каля ўваходу ў консульства".*

*"Мы ведаем аб гэтай праблеме і будзем рабіць усё, каб людзі не зараблялі грошы на гэтым",* — падкрэсліў Лешак Шарэпка.

Перамагчы хакераў сваімі сіламі амбасада Польшчы не можа, а дапамогі ад беларускіх праваахоўнікаў не атрымлівае. Сваю адмову ў дапамозе супрацьдзеянню хакерам беларускія праваахоўнікі тлумачаць тым, што перахопліваць анкеты электроннай рэгістрацыі віз не супрацьзаконна.

Тое, што дзейнічаюць хакеры, супрацоўнікі амбасады высветлілі "вопытным шляхам" — аднаго разу выставілі на сайт адразу некалькі дзясяткаў тысяч візавых анкет. На тое, каб нехта "зняў" іх, спатрэбілася... 12 хвілін. Калі гэтыя анкеты пачалі прадаваць проста ля ўваходу ў консульства, то ніякіх дзеянняў у дачыненні да "прадпрымальнікаў" беларуская міліцыя зноў не зрабіла. І зноў патлумачыла гэта тым, што няма ніякіх доказаў супрацьпраўнай дзейнасці гэтых людзей.

Супрацоўнікі амбасады і консульскага аддзела шукаюць магчымасці супрацьдзеяння беларускім хакерам, але пакуль нічога зрабіць не могуць.




ДАРЭЧЫ

## На наступным тыдні наваселле

Некалькі месяцаў польскай дыпмісіі ў Мінску давялося працаваць у цесным будынку консульства на вуліцы Крапоткіна. Адбылося гэта таму, што беларускія ўлады адмовілі Польшчы ў працягу арэнды ранейшага будынка пасольства на вуліцы Румянцава, у якім пасольства месцілася яшчэ з савецкіх часоў. Пошук новага будынка заняў шмат часу і высілкаў. І вось нарэшце — наваселле. Пасол Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка паведаміў, што з наступнага тыдня пасольства пераязджае на вуліцу Змітрака Бядулі, 11.

ЗДАРЭННЕ

## Унук Мулявіна стаў ахвярай бандыта

*Рабаўнік накінуў падлетку пятлю на шыю, каб той аддаў усе бацькоўскія грошы.*

Выпадак адбыўся ў пад'ездзе дома на вуліцы Філімонава. Калі 13-гадовы ўнук знакамітага музыканта і кампазітара, стваральніка гурта "Песняры" Уладзіміра Мулявіна зайшоў у пад'езд, на яго накінуўся невядомы з нажом і загадаў адчыніць кватэру. Каб хлопчык не ўцёк, злодзей накінуў яму на шыю пятлю. Зайшоўшы ў памяшканне, ён адпусціў падлетка і пад пагрозай смерці прымусіў няшчаснага паказаць, дзе захоўваюцца каштоўнасці і грошы.

Як пазней высветлілася, злачынца не меў крымінальнага досведу, але дзейнічаў, як рэцыдывіст. Калі мэта была дасягнута і зберажэнні сям'і патрапілі ў яго рукі, мужчына адабраў у хлопчыка тэлефон і загадаў яму зачыніцца ў ваннай.

Злодзей вынес з кватэры 105 мільёнаў рублёў і 22 залатыя ўпрыгажэнні. Сваю здабычу бандыт аднёс у казіно, дзе праз суткі яго і затрымалі следчыя.

Аказалася, што злачынства здзейсніў 23-гадовы электрагазазваршчык. Шэсць гадоў таму ён жыў у адным доме з сям'ёй сваякоў Мулявіна і запомніў, што яны не маюць праблем з фінансамі. На допыце мужчына прызнаўся, што злачынства не планаваў і забіваць хлопчыка не стаў бы ні ў якім выпадку.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**

ЖИТЕЙСКИЕ ИСТОРИИ

# Земельный спор

***В отличие от законов природы, которые соблюдаются всегда, при любой власти, белорусские законы действуют избирательно. Что и подтверждает давно затянувшийся земельный спор между пенсионеркой из Шарковщины и ее соседом, начальником.***

...История началась с того, что в 2001 году Анфия Далецкая приобрела у жительницы Шарковщины Клавдии Таболо жилой дом с участком 0,179 га. Дом был добротный. А вот с соседом не повезло.

Как рассказывает Анфия Далецкая, сначала сосед, директор Глубокской автобазы Евгений Лысенок, заставил ее убрать плодовые насаждения с границы участка, мотивируя это тем, что это его территория. Но аппетит, как говорят, приходит во время еды. Когда соседка убрала деревья, он стал настаивать на том, чтобы она убрала еще и беседку, которая якобы также находится на его территории.

Тогда Далецкая с мужем взяли техпаспорт и перемеряли свою территорию. В результате оказалось, что они не только ничего не должны соседу, но, наоборот, он запахал себе часть их земли.

Мирным путем разрешить конфликт не удалось, и женщина обратилась в Шарковщинский райисполком с заявлением о рассмотрении земельного спора. Там была создана соответствующая комиссия, которая и рассмотрела этот спор. Согласно составленному акту, полсотки земли необходимо было забрать у Лысенка в пользу Далецкой. Хотя эта площадь была значительно меньше спорной, Анфия Далецкая с решением согласилась.

Этот акт и результаты измерений были направлены в Витебск для составления свидетельства государственной регистрации. Но каково же было удивление женщины, когда она получила свидетельство о государственной регистрации, по которому получалось, что это она "украла" полсотки земли. Конечно же, Далецкая решила судиться.

Первый суд, который проходил в городе Поставы, принял решение в пользу гражданина Лысенка. Далецкая обжаловала это решение, и там же, в Поставах, состоялся второй суд.

В суде были установлены интересные детали. Оказывается, Евгению Лысенку в свое время было выделено 8 соток земли, потом его участок увеличился до 10 соток, за которые он и платил налоги. Но на самом деле площадь его участка составляет более 17 соток. И осталось непонятным, за счет каких земель и на каком основании участок соседа Далецкой увеличился почти вдвое. Получается, что Шарковщинская землеустроительная служба надлежащим образом не контролировала использование земель?..

Однако Евгений Лысенок сдаваться не собирался. Следующий суд прошел в его пользу. Интересно, что суд принял решение отказать Далецкой во встречном иске, мотивируя это тем, что нет возможности на месте установить границу. Картографический материал, оказывается, это секретные сведения, и рядовому гражданину их предоставить нельзя. И это в век интернета, когда на Google можно найти снимок любого участка планеты!

Но чего только не случается в нашей действительности!

В решении суда сказано, что установить границы участка нужно по фактически сложившейся границе. Далее в решении суда написано, что "Лысенок с 18 марта 1976 года, то есть более 15 лет, добросовестно, открыто и непрерывно владеет своим земельным участком в фактически сложившихся и определенных в процессе пользования границах..." То есть неуплата налога на землю — это добросовестное владение.






...Анфия Никандровна показывает пухлую папку переписки с чиновниками разного уровня.

— Получается, если ты хоть мало-мальски какой-то начальник, то и закон тебе не писан, — говорит женщина.

В свое время она добилась приема у руководителя области Александра Косинца. Он приказал подчиненным решить этот позорный земельный спор. Но ему сочинили отписку, будто бы Далецкая согласна с выводами комиссии. По словам женщины, Косинцу подчиненные навешали лапши на уши.

У Анфии Никандровны имеется ответ начальника Витебской областной землеустроительной службы Игоря Левенкова, где тот вообще утверждает что, мол, сосед с другой стороны участка захватил у Далецкой 6 метров земли. Бумага, как говорится, все стерпит. Ведь с той стороны уже 50 лет существует канава, которую не перенесешь...

— А больше меня к Косинцу не допускают, говорят: раз попала и достаточно, другого раза не будет, — жалуется Анфия Никандровна. — И в суде вопросы задавали только мне, у Лысенка судья только спросила: почему вы за столько лет не нашли возможности узаконить свой участок?

Как утверждает Далецкая, после приезда областного начальства сосед предлагал купить у нее спорную территорию, но она отказалась.

— Значит, закон на моей стороне, но вот только как добиться его исполнения? — задает риторический вопрос женщина.

Недавно Анфия Далецкая обратилась с электронным обращением в Администрацию президента, но оттуда также пришла очередная отписка. Дело вернулось в исходную точку — на рассмотрение в Шарковщинский райисполком.

Кстати, за это время руководитель Шарковщинского района Мечислав Морхат был избран депутатом Палаты представителей. Сейчас он сам будет принимать законы. А будут ли они исполняться даже самой властью — вопрос риторический.

**Славомир КЛИМКОВИЧ.**

*Шарковщинский район.*

МІГРАЦЫЯ

## Будаўнікі з'язджаюць

*Дзесяць самых буйных будаўнічых арганізацый Беларусі пазбавіліся прыкладна 10 працэнтаў сваіх працаўнікоў толькі за паўгода.*

На 1 студзеня 2012 года там працавала 40.847 чалавек, на 1 ліпеня — ужо 36.726 чалавек. Не выключана, што да канца года з'едуць яшчэ больш будаўнікоў, бо зніжэнне аб'ёмаў будаўніцтва ў Беларусі, абумоўленае фінансавымі праблемамі дзяржавы і насельніцтва, а таксама параўнальна нізкі ўзровень заробкаў, прымушае беларускіх будаўнікоў шукаць работу за мяжой, у першую чаргу ў Расіі.

Найбуйнейшая будаўнічая арганізацыя Беларусі — МАПІД — з пачатку года "страціла" каля тысячы супрацоўнікаў. Амаль на 500 чалавек зменшылася колькасць работнікаў у будаўнічым трэсце №3 (Салігорск) і №8 (Брэст), а таксама ў "Мінскпрамбудзе" і Гомельскім ДСК.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЧУЛІ?

## Самы папулярны мабільнік беларусаў — смартфон за 200—300 долараў

*Аб гэтым паведаміў дырэктар ЗП "АйЦі-Макс" Аляксандр Трусь. Паводле яго ацэнак, беларускі рынак мабільных тэлефонаў складае 1,6—2 млн мабільных прылад.*

За апошнія два гады агульная статыстыка продажу мабільных тэлефонаў практычна не змянілася. Аднак назіраецца пераразмеркаванне попыту са звычайных тэлефонаў на смартфоны.

У 2011 г. 60% усяго продажу складалі звычайныя мабільныя тэлефоны, а цяпер іх доля знізілася да 40% дзякуючы папулярнасці смартфонаў.

У колькасным выражэнні доля смартфонаў выглядае больш сціпла. За тры кварталы 2012 года ў Беларусі прададзена 1,33 млн мабільных тэлефонаў, уключаючы 378 тыс. смартфонаў.

Найбольш папулярным сярод беларусаў сегментам з'яўляюцца смартфоны коштам 200—300 долараў.

Сярэдні тэрмін выкарыстання мабільнага тэлефона ў Беларусі вырас з 3 да 4 гадоў.

У ІХ І Ў НАС

# Крывавая тайна Тускуленая

*У той час, калі сённяшняя літоўская дзяржава рашуча пазбаўляецца таталітарнага мінулага, навязанага маскоўскімі бальшавікамі, беларускія ўлады лічаць забойцу Дзяржынскага ўзорам для пераймання.*



Наша суседка Літва ўжо даўно стала турыстычнай Мекай для беларусаў. І гэта цалкам зразумела. Выдатная інфраструктура, шырокі выбар гатэляў з магчымасцю інтэрнэт-браніравання (ад пяцізоркавых да танных хостэлаў), сетка інфармацыйных цэнтраў па ўсёй краіне, дзе вам не толькі дадуць самую поўную інфармацыю па любым пытанні (як даехаць, дзе спыніцца і г.д.) ды яшчэ і забяспечаць картай-схемай Вільнюса, Каўнаса, Шаўляя (у залежнасці ад таго, куды вы прыехалі). Дадайце сюды поўную адсутнасць моўнага бар'ера (у Літве ўсе разумеюць як мінімум па-руску), а таксама вельмі дэмакратычныя кошты з магчымасцю вярнуць падатак на дадаеную вартасць (Tax free) на амаль увесь спектр тавараў і паслуг і стане зразумелым, чаму на хуткі цягнік Мінск—Вільнюс часам трэба купляць квіток за тыдзень да запланаванага вяжу. Асабліва ў сезон зніжак у буйных гандлёвых цэнтрах — "Акрапаліс", "Озас", "Панарама", "Еўропа". Тады цягнік ператвараецца ў караван, бо вязуць з Літвы ўсё — адзенне, абутак, тэхніку, прадукты харчавання і нават аўтамабільныя пакрышкі.

Гэтым летам я таксама здзейсніў некалькі падарожжаў па Літве. І мог бы распавесці пра старажытныя замкі, касцёлы, музеі і цікавыя святы ў Вільнюсе, Каўнасе, Тракаі... Пісаць пра выдатныя мясціны Літвы можна бясконца. Тым больш што на кожным кроку там сустракаеш нашу — беларускую — гісторыю. Напрыклад, шыкоўны музей царкоўнай спадчыны ў Вільнюсе месціцца ў будынку касцёла Св.Міхаіла, пабудаванага па фундацыі нашага канцлера Льва Сапегі.

Але я хацеў бы пазнаёміць чытачоў "Народнай Волі" з іншым месцам, трагічным і светлым адначасова, — Мемарыяльным комплексам Тускуленскага парку спакою. Дабрацца туды вельмі проста, ён знаходзіцца літаральна ў некалькіх кроках ад велічнага касцёла Святых апосталаў Пятра і Паўла — дастаткова проста перайсці мост праз Вілію і, павярнуўшы направа, пераадолець некалькі дзясяткаў метраў уздоўж ракі.

Тускуленскі парк мае багатую і старажытную (з XVI ст.) гісторыю. У 1825 годзе расійскі шляхціц Аляксандр Рымскі-Корсакаў пабудаваў там прыгожы палац у стылі класіцызму. Пасля рэстаўрацыі ён стаў сапраўднай архітэктурнай пярлінай Тускуленскага парку, на тэрыторыі якога зараз размяшчаецца літоўскі дзяржаўны Цэнтр даследавання генацыду і супраціву жыхароў Літвы, працуе музей з выдатнай экспазіцыяй і пабудаваны велічны калумбарый, дзе знайшлі свой спачын парэшткі ахвяр расійска-бальшавіцкага таталітарнага рэжыму.

Справа ў тым, што пасля вяртання ў Літву ў 1944 годзе Савецкай арміі тэрыторыя сённяшняга парку была перададзена ў распараджэнне савецкіх карных органаў і пачала выкарыстоўвацца імі як месца сакрэтных пахаванняў. Ва ўнутранай турме будынка НКДБ (народны камісарыят дзяржаўнай бяспекі) — МДБ (Міністэрства дзяржаўнай бяспекі) у цэнтры Вільнюса ладзіліся жорсткія крывавыя катаванні літоўцаў (у асноўным так званых лясных братоў — грамадзян Літвы, якія не змірыліся з маскоўскім ярмом і сталі на шлях узброенай партызанскай барацьбы з захопнікамі). Там жа прыводзіліся ў выкананне і смяротныя прысуды. Па падліках літоўскіх даследчыкаў, у 1944—1947 гадах у гэтым д'ябальскім месцы бальшавіцкія каты забілі 767 чалавек, у тым ліку кіраўнікоў супраціву Ёнаса Сямашку і Лявонаса Таўніса, а таксама епіскапа Вінцэнтаса Барысявічуса. Іх віна была ў тым, што яны жадалі бачыць сваю краіну і народ вольнымі, марылі пра незалежнасць Літвы. Вось так маскоўскія бальшавікі пракладвалі шлях у камуністычны "рай" — па трупах лепшых прадстаўнікоў літоўскага народа.

Пасля расстрэлаў целы забітых вывозілі ў Тускуленай і таемна хавалі ў зараней падрыхтаваных ямах. Пасля таго як целы скідвалі ў ямы, іх засыпалі вапнай, залівалі дызельным палівам і пакрывалі слоем толі. Смерць шчыравала на гэтым месцы да 1947 года. Прычым у адным з будынкаў Тускуленскага парку (побач з пахаваннямі) быў адчынены дзіцячы садок (!) для дзяцей супрацоўнікаў савецкага МДБ. У 1949 годзе будынкі і тэрыторыя Тускуленая былі перададзены ДТСААФ. А крывавая тайна Тускуленая была пахавана ў савецкіх архівах пад грыфам "Сакрэтна". Як здавалася, назаўсёды...

Але ісціна ўсё роўна выйдзе на волю, колькі б ні спрабавалі яе хаваць і тапіць у моры хлусні і лжы. Так і здарылася. У 1994—1996 гадах і ў 2003 годзе на тэрыторыі парку праводзіліся даследаванні, падчас якіх былі зроблены страшныя знаходкі — парэшткі ахвяр таталітарнага рэжыму. На жаль, большасць з іх так і не былі апазнаны. У 2004 годзе яны былі пахаваны ў спецыяльна для гэтага пабудаваным велічным калумбарыі ў форме кургана з агромністым крыжом на ўваходзе. Скляпенне калумбарыя ўпрыгожана мазаікай "Тройца", што ўяўляе сабою перакрыжаванне крылаў трох птушак — сокала, савы і лебедзя, якія сімвалізуюць Лёс, Шчасце і Свабоду. Кожны год у Дзень памяці ў гэтым месцы збіраюцца самыя розныя людзі, каб аддаць даніну павагі тым, хто загінуў ад рук бальшавіцкіх забойцаў.

Самае важнае тое, што сённяшняя літоўская дзяржава рашуча пазбаўляецца таталітарнага мінулага, адкрывае страшную праўду пра гады маскоўскага панавання, выхоўвае маладое пакаленне ў духу патрыятызму і павагі да тых, хто змагаўся за незалежнасць краіны. Ва ўзгаданым мною музеі, які ўваходзіць у склад мемарыяльнага комплексу, проста выдатная экспазіцыя. І ў той жа час яна жудасная, бо паказвае ўсю антычалавечую сутнасць рэжыму, які панаваў у былым СССР на працягу дзясяткаў гадоў. На мой погляд, вельмі добра, што асобная частка музея распавядае пра бальшавіцкіх катаў — афіцэраў савецкіх карных органаў, якія кіравалі, а вельмі часта і асабіста ўдзельнічалі ў масавых забойствах. Злачынцы, на чыіх руках і сумленні загубленыя жыцці, павінны быць выкрыты і асуджаны гісторыяй. Зло павінна называцца злом, якой бы дэмагогіяй і лжывай ідэалогіяй яно ні прыкрывалася.

Падчас наведвання Тускуленскага парку я ўвесь час думаў пра тое, што ў адрозненне ад літоўцаў, якія клапоцяцца і дбаюць пра сваю нацыянальную гісторыю, беларуская ўлада не толькі не асуджае злачынствы сталінізму, а наадварот — усхваляе яго. Беларускі КДБ ганарыцца сваім "слаўным" крывавым мінулым, а забойцу Дзяржынскага лічыць узорам для пераймання. А ў цэнтры Мінска, як калісьці і ў цэнтры Вільнюса, працягвае існаваць такая ж унутраная турма, у якой часта апынаюцца не сапраўдныя злачынцы, а тыя, хто проста хоча жыць у дэмакратычнай і свабоднай Беларусі. Перыядычныя напады на шматпакутныя Курапаты (святое для кожнага сапраўднага беларуса месца), звярыная злосць, з якой улады ставяцца да памяці патрыётаў, у прыватнасці Расціслава Лапіцкага, пакаранага смерцю сталінскім рэжымам; пераслед знаных гісторыкаў за іх праўдзівыя працы па гісторыі Беларусі — усё гэта яскрава сведчыць пра тое, што наш сённяшні рэжым — спадчыннік сталінізму. Нездарма ж на апошняй прэс-канферэнцыі для прыкормленых расійскіх СМІ сам Лукашэнка ў чарговы раз зрабіў рэверанс у бок самых страшных злачынцаў XX стагоддзя — Леніна і Сталіна. Адсюль і святкаванне 7 лістапада — дня бальшавіцкага перавароту — на дзяржаўным узроўні і залічэнне ў "патрыятычныя сілы" камуністычнай партыі, прадстаўнікі якой дагэтуль спавядаюць антычалавечую цемрашальскую ідэалогію.

Пакуль Беларусь (па прыкладзе той жа Літвы) не пазбавіцца свайго цяжкага мінулага і не зладзіць як мінімум маральнага суда над кадэбэшнымі забойцамі (прычым назваць іх трэба пайменна, каб ведалі іх нашчадкі і не ганарыліся "заслугамі" забойцаў!), пакуль не будуць прыбраны з нашых плошчаў камуністычныя ідалы, а з падручнікаў — хлуслівае ўслаўленне ленінска-сталінскага перыяду нашай гісторыі, ніякія дыялогі аб мадэрнізацыі нашаму грамадству не дапамогуць.

З павагай і найлепшымі пажаданнямі —

**Дзяніс РАБЯНОК,**
**грамадскі актывіст.**

*г.Калінкавічы.*

ТАК ДУМАЮ...

## *Паспрабуй звольні!*

Чуў па тэлевізары, як нядаўна Лукашэнка вучыў кіраўнікоў прадпрыемстваў змагацца з лайдакамі і п'яніцамі. "Караць рублём, а калі не дапамажа — з такімі людзьмі трэба развітвацца", — казаў прэзідэнт.

На мой погляд, людзі пачынаюць працаваць абы-як, калі бачаць "ураўнілаўку" ў аплаце працы, незалежна ад вынікаў сваёй працоўнай дзейнасці. А што тычыцца п'яніц... Не сакрэт, што кіраўнікоў прадпрыемстваў прымушаюць браць на работу алкашоў, гультаёў, дармаедаў для таго, каб яны хоць як-небудзь утрымлівалі сваіх няшчасных дзяцей. Вы думаеце, усе яны ідуць па цяжкай сцежцы выпраўлення? Нічога падобнага: паводзяць сябе нахабна, з'яўляюцца нападпітку, знікаюць на некалькі дзён. А для таго, каб звольніць гэтую "працоўную сілу", трэба запоўніць кілаграмы папер і патлумачыць сацыяльнай службе, міліцыі, чаму такога "работніка" звольнілі.

**І.П.ДРОЗД,**
**Мінская вобласць.**

З ЛІСТА

## *Прафесар павінен своечасова сысці на пенсію*

На мой погляд, ідэя захаваць пенсіянерам-навукоўцам даплаты за ступень і званне — правільная. Таму што часам яны да самай смерці працуюць, каб не цягнуць галечнае існаванне на пенсіі. Але (без крыўд) нярэдка (я не гавару пра ўсіх) дацэнты, прафесары проста праціраюць штаны і мараюць паперу, перапісваючы старыя справаздачы і паўтараючы эксперыменты, праведзеныя сотні разоў... Асабліва гэта тычыцца сусветнай эканомікі, электронікі. Некаторыя нават кажуць студэнтам: маўляў, вы маладыя, вось і развівайцеся, а нам ужо не трэба — і навязваюць ім на лекцыях абы-што. А калі б у іх была нармальная пенсія, яны вызвалілі б месцы маладым і перспектыўным выкладчыкам і спакойна, як іх замежныя калегі-пенсіянеры, адпачывалі б, каталіся па свеце.

**Святлана,**
**студэнтка.**

ХОЧУ СКАЗАТЬ...

## *Поддерживаю*

У нас в Гродно обсуждают последнюю новость: неплательщика алиментов выселили из квартиры. Не на улицу, конечно. Ему предоставили более дешевую квартиру с удобствами во дворе. А разницей погасили задолженность.

Мне кажется, это тот случай, когда власть надо поддерживать. А что еще делать с теми, кто родил и бросил свое чадо?! Долг этого неплательщика составлял более 5 миллионов рублей. Его дочь воспитывается в опекунской семье. К нему не раз приходили судебные исполнители. А он все равно не платил.

Кстати, в нашем городе подобный случай — не первый. Так же поступили еще с двумя злостными неплательщиками алиментов. Еще двое ждут решения своей судьбы в суде. А что думают по этому поводу читатели "Народной Воли"?

**А.АКУЛИЧ.**

*Гродно.*

ПЕНСИОННАЯ РЕФОРМА

# На бюджет надежды нет! Пора подумать о накопительной системе

*Пенсионная система Беларуси тонет. Держится на хилой конструкции, которая как может поддерживает порядка двух с половиной миллионов пенсионеров. Примерно 600 тысяч из них продолжают трудиться, сохраняя приемлемый по нашим постсоветским меркам уровень жизни, а миллион 900 тысяч человек — неработающие пенсионеры, большинство из которых прозябает на грани нищеты.*

Беднее белорусских на всем бывшем советском пространстве живут только пенсионеры среднеазиатских стран, Грузии и Молдовы. Да еще вровень с нами идут пока украинцы, но у них уже пошел процесс обновления пенсионного законодательства, основанный на позитивном европейском опыте. Например, постепенно повышается до 60 лет пенсионный возраст для женщин и до 62 лет для некоторых профессиональных групп мужчин (чиновники, депутаты, судьи), развиваются негосударственные пенсионные фонды, есть другие изменения.

К слову, процесс совершенствования пенсионного законодательства практически непрерывно продолжается и в развитых странах мира, давно уже решивших многие проблемы своих пожилых граждан. Там понимают, что набирающая обороты тенденция старения населения носит глобальный характер и касается буквально всех. Согласно недавно опубликованному докладу ООН, через 10 лет число жителей планеты старше 60 лет превысит один миллиард человек, а к 2050 году людей "за шестьдесят" в мире будет больше, нежели 15-летних подростков. Мир озабочен неуклонным ухудшением демографической ситуации, и уже многие годы ведущие страны тратят немалые средства на прогнозирование и минимизацию последствий этого негативного процесса.

А что же в нашем "стабильном" и "социально ориентированном" государстве? Как отвечает на вызовы времени белорусское правительство? Что в активе наших законодателей? Пока ничего, кроме довольно невыразительного мартовского указа президента №136, дающего возможность пенсионерам по возрасту, продолжающим работать, немного увеличить размер пенсии через несколько лет. Более того, изменениями в государственном бюджете страны на 2013 год белорусским пенсионерам ясно дают понять, что резервов для их поддержки у государства уже нет. Иначе никак не объяснить тот факт, что с бюджета страны на 2013 год сняли и переложили на Фонд социальной защиты населения достаточно большую нагрузку в виде выплаты социальных пенсий, пособий семьям, воспитывающим детей, военнослужащим срочной службы и ряд других. Значит, бюджет уже не выдерживает даже тех нагрузок, которые традиционно выполнял до сих пор, и его проблемы будут решаться за счет Фонда социальной защиты населения. По всей видимости, пенсионерам пора уже привыкать к мысли, что планомерного повышения размера пенсий в следующем году вполне может и не быть.

Но тогда возникает вопрос: являются ли государственный бюджет и существующий параллельно с ним Фонд социальной защиты населения гарантами поддержания хотя бы минимального уровня социальной защищенности пенсионеров? Почему гораздо увереннее наших пенсионеров чувствуют себя пожилые жители многих других стран?

Все дело в механизмах, которые используют правительства развитых стран для социальной защиты своих граждан. В цивилизованном мире рыночных отношений основным гарантом благополучия на протяжении всей жизни и в том числе в пенсионные годы является личная ответственность и личные усилия каждого человека. Государство только создает условия и законодательно обеспечивает равные условия для участников производственного процесса. На этой основе и сформировался оптимальный вариант пенсионного обеспечения, включающий три составные части получаемых гражданами пенсий:

— ***страховая государственная*** — как правило, небольшая, которая гарантируется государством и выплачивается по достижении определенного возраста;

— ***корпоративная*****,** которая формируется предприятием, фирмой или их объединением;

— ***накопительная*****,** создаваемая самим работником посредством постоянного

перечисления части зарплаты в пенсионные (как правило, негосударственные) фонды, которые путем прибыльных финансовых операций увеличивают вложенные средства.

Основным, самым весомым элементом является именно накопительная часть, и именно она делает большинство пенсионеров цивилизованных стран вполне обеспеченными людьми.

Создание накопительной пенсионной системы занимает не год и не два. В наших условиях процесс может затянуться, поскольку потребует изменения не только пенсионного законодательства, но и налогового, трудового законодательства, формирования рыночных финансовых институтов, то есть в конечном итоге приведет к ряду серьезных социально-экономических реформ. Это, безусловно, нелегкий и не сулящий скорых успехов путь, но он неизбежен. Властям пора осознать, что речь уже идет даже не о благосостоянии, а о выживании ближайших поколений белорусских пенсионеров. Или, обеспечив себе особые пенсии, нынешние руководители думают, что их это не коснется?

Создание эффективной накопительной системы, безусловно, не исчерпывает проблему проведения полноценной пенсионной реформы. Неизбежно возникает вопрос о повышении пенсионного возраста. Это не попытка переложить еще одну проблему государства на плечи тружеников, а вынужденная и к тому же наиболее действенная мера по защите в первую очередь неработающих пенсионеров. Нельзя отрицать и права белорусских нанимателей поднимать вопрос о пересмотре ставки налога, отчисляемого из фонда заработной платы. Компенсацией потерь Фонда социальной защиты в этом случае могут стать доходы от приватизации, другие бюджетные и внебюджетные источники. Правительству пора проявлять инициативу в освещении всех перечисленных вопросов.

**Петр ГОЛОСОВ,**
***директор Социального информационного пенсионерского учреждения "Второе дыхание".***

### К СЛОВУ

## *«Что имеем, то и распределяем»*

На днях о пенсионной системе Беларуси высказался Александр Лукашенко. На встрече со студентами и преподавателями БГЭУ он сказал, что *"если люди не хотят повышения пенсионного возраста, я не могу с этим не считаться. Я себя позиционирую как народный президент"*.

Объяснил глава государства и то, почему пенсии в нашей стране маленькие. *"Но если денег нет, ты их не заплатишь. Поэтому у нас и невысокая пенсия. Кстати, в зависимости от экономического развития и зарплат в реальном секторе пенсии увеличиваются. То, что имеем, то и распределяем. Поэтому хочешь в 60 лет — уходи, вот тебе пенсия, которую мы можем платить. Хочешь дополнительно работать — работай"*.

SOS!

# Падумайце пра чалавека, якому цяжэй за вас

Дарагія сябры, звяртаюся да вас я, Ада Райчонак, з вялікай просьбай аб дапамозе. Для сябе асабіста я ніколі ў жыцці не папрасіла б і не папрашу. Я прашу за тых, хто ў бядзе.

Калісьці я звярталася праз газету і прасіла дапамагчы майму беламу вучню Стасю Ананічу, ад якога ўцякла жонка-п'яніца, абакраўшы яго і кінуўшы яму траіх дзетак. Маленькай Марысьцы было ўсяго 7 месяцаў.

Тады "Народная Воля" надрукавала маю просьбу, і людзі вельмі чула паставіліся да крыку маёй душы, прыйшлі Стасю на дапамогу.

У яго хаце дзякуючы людской дабрыні і стараннасці самога Стася і яго траіх дзетак зараз цёпла, чыста і ўтульна. Вельмі хворы на сэрца, ён не спіўся сярод усеагульнага п'янства, выстаяў. У яго гаспадарцы ёсць конь, карова, свінні, куры. Не па гадах сур'ёзныя і гаспадарлівыя хлопцы добра ведаюць кошт рубля. І няхай у школе ў іх не вельмі высокія балы, яны вырастуць працавітымі, добрымі людзьмі.

За Стася я цяпер спакойная. Ён і яго дзеці не прападуць у наш незвычайна цяжкі час, выстаяць. Дзякуй вам, добрыя людзі, што прыйшлі яму на дапамогу!

Але цяпер маю яшчэ адну просьбу.

Больш за год таму мая знаёмая Наталля папрасіла мяне дапамагчы Лідзе Зялёнцы, якая знаходзіцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Трэба было знайсці адзенне для маленькай дачушкі Ульянкі. Паехала я ў вёску Радзюкі, пазнаёмілася з Лідай і зразумела: не магу быць абыякавай да лёсу Ліды і яе дачушкі.

Жанчыне 22 гады. Бацькі яе памерлі. На сваю бяду пакахала яна вясковага валацугу, які, як толькі даведаўся, што яго каханка чакае дзіця, адразу ж уцёк ад яе і ажаніўся з іншай дзяўчынай. Радня жонкі нягодніка, баючыся, што зяць уцячэ і ад іх дачкі, не даюць Лідзе спакойна жыць.

Жыве яна толькі на тыя сродкі, што выплачвае дзяржава па доглядзе за дзіцем. Гэта мізэрныя грошы. Ульянка амаль увесь час хварэе, і шмат грошай ідзе на лекі. Пра якое якаснае харчаванне малой можа ісці гаворка, калі ў хаце і хлеб не заўжды бывае? 3 лютага дзяўчынцы будзе тры гады. У вёсцы дзіцячага садка няма, малых возяць аж за 5 кіламетраў у Шаркоўшчыну. Будзе і Ульянка ў тым садочку, а пакуль Ліда чакае, калі прастуда пакіне дачушку, каб можна было ўладкавацца на працу. Ведаеце, як балюча чуць з вуснаў маладой прыгожай жанчыны горкія словы: "Іншы раз хочацца рукі на сябе накласці ад безвыходнасці".

Крыху мы ёй дапамагаем: шукаем адзенне для малой, тоесёе прывозім з сялянскага падворка. Калі б Ліда жыла са мной у адной вёсцы, а не за 25 кіламетраў, мне лягчэй было б ёй дапамагчы. Да родаў яна насіла адзенне 42—44-га памеру. Зараз ёй патрэбна адзенне 46—48-га памеру. Тое, што я прывезла, аказалася для яе вялікім. Новае ж адзенне Ліда не можа сабе купіць з-за безграшоўя.

Наперадзе лютая зіма, а на двары яе ляжыць невялічкая кучка дошак-абрэзкаў...

Вось усё гэта і прымусіла мяне звярнуцца да вас, добрыя людзі, за дапамогай. Я ведаю, што мы жывём у вельмі няпросты час, усім цяжка, усе выжываем. Але падумайце аб чалавеку, якому цяжэй за вас. У Ліды ёсць тэлефон. Я і Наталля яго аплачваем. Нумар яе 8-029-897-15-84. Вельмі спадзяюся на вашу добрую і спагадлівую да чужой бяды душу.

**Ада РАЙЧОНАК,**
**Шаркоўшчынскі раён.**

### АД РЭДАКЦЫІ

Не толькі мы, журналісты "Народнай Волі", добра ведаем Аду Эльеўну Райчонак, а і многія прыстойныя людзі на Віцебшчыне і па ўсёй Беларусі.

Ада Райчонак — заснавальніца недзяржаўнага мастацкага музея ў родным мястэчку Германавічы Шаркоўшчынскага раёна, арганізатар шматлікіх мастацкіх пленэраў, сапраўдны рухавік незалежнай культурнай дзейнасці на Віцебшчыне. Раней была вясковай настаўніцай. Ада Эльеўна шчыры, сумленны і вельмі моцны чалавек, які проста так нікога турбаваць не будзе. І калі ўжо яна даслала сігнал "SOS!", то гэта значыць, што ёсць сапраўдная патрэба.

Давайце — хто чым можа — дапаможам і маладой маме Лідзе Зялёнцы, і яе дачушцы Ульяне. Няхай яны ведаюць, што не адны на гэтым свеце.

НУ И НУ!

## *Новогодние каникулы в некоторых белорусских санаториях будут дороже поездки в Таиланд*

*Цены на белорусские новогодние туры просто поражают! За 12-дневный отдых в санатории с граждан Беларуси просят около 500 долларов, и это при том, что примерно за такую же сумму при определенном везении можно отлично провести столько же времени, скажем, в рождественской Чехии.*

Некоторые белорусские санатории и вовсе перещеголяли сами себя. Так, к примеру, 12-дневный отдых в однокомнатном двухместном номере в санатории Витебской области с учетом новогодней программы стоит... почти 1100 (!) долларов. При этом путевку в Таиланд на 12 ночей некоторые турагентства предлагают по цене от 1000 долларов.

ВОПРОС—ОТВЕТ

## *Акцизы вырастут в 2 раза, сигареты подорожают на 20—30 процентов*

***В прошлом номере "Народная Воля" рассказала о том, как скажется на цене бензина повышение акцизов на топливо. Но с 1 января 2013 года, как известно, значительно повысятся ставки акцизов и на сигареты, например, на сигареты низкого ценового сегмента они вырастут в 2,1 раза. Сколько будут стоить сигареты в новом году?***

***Р.Лазаревич, Минск.***

Генеральный директор гродненской табачной фабрики "Неман" Юрий Чернышев так прокомментировал ситуацию журналистам:

— Да, акцизы повысятся серьезно, но мы не можем переложить этот груз на плечи потребителей. В этом году цены на сигареты увеличивались в зависимости от марок незначительно, на 500—2000 рублей. В следующем году цены вырастут приблизительно на 20—30 процентов, не более.

Юрий Чернышев обратил внимание на то, что курящие белорусы в последнее время стали переходить на легкие сигареты.

— Сейчас наша фабрика работает в круглосуточном режиме, все мощности загружены, в этом году уже произведено 22 миллиарда сигарет. До конца года нужно отгрузить 1 миллиард Super Slims на экспорт, их дефицит сейчас наблюдается на рынке. Дело в том, что структура табачного рынка активно меняется, потребительские предпочтения склоняются к сигаретам с невысоким содержанием никотина. Поэтому если в 2005 году доля сигарет формата Super Slims и Compact King Size составляла около 1 процента, то в прошлом году, по оценкам Минторга, их доля увеличилась до 12 процентов в общей доле продаж. В этом году она составит около 16 процентов, а в следующем увеличится до 20 процентов. Чтобы избежать дефицита и обеспечить всех, в этом году мы закупили и уже запустили в эксплуатацию современную производительную сигаретно-упаковочную линию немецкой компании для производства сигарет формата King Size, а в декабре на фабрику поступит оборудование для производства Super Slims.

